Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Цана нумару 15 гр.

№ 4. Вільня 30 Красавіка 1934 г. Год I.

# АСВА

Рэдакцыя і адміністрацыя
WILNO,
ul. S.S. Miłosierdzia Nr. 18 m. 5.

Прэнумэрата: у год 3 зл.
у поў года 1,50 зл.

ДВУТЫДНЕВІК ГРАМАДЗКАГА ГУМАРУ і САТЫРЫ.



## ГІТЛЕРЫЗМ «СЬВЯТКУЕ» ПЕРШЫ МАЙ




1.— Гітлер, гістарычны дзень барацьбы працоўных масаў усяго сьвету першы май, сілаю зброі у Нямеччыне, захапіў яго сабе. Ен нават на свой герб умясьціў серп і молат. Мэта тут адна — ашукаць нясьведамых, што паміж капіталам і працоўнымі розьніцы няма, што павінна быць поўнае сужыцьцё і ён яго праводзіць, кладучы работніцкія галовы на плаху..

2.— II інтэрнацыянал, сьвяткуючы першы май прагдядае шлях гераічнага ўратаваньня капіталу ад краху Вынік нядрэнны; праз „мір у прамысловасьці", „без насільля да сацыялізму", тэорыяй „меньшага зла" ён забясьпечыў прыход да ўлады Гітлера, здушэньне паўстаньня Вены; усе высілкі пакладае аж па сёньня ў барацьбе з Гішпанскай рэвалюцыяй. І як гэта капіталісты не заўважваюць такога героя.

3.— У Польшчы першы май сьвяткуюць 6 палітычных партыяў разам, якія знайшлі адзінства ў рашучым „спачуваньні" галодным і ў больш завостранай барацьбе з камуністамі.

# АДКАЗ

## правакатарам-даносчыкам.

Заўсёды так бывае, калі вораг адчувае сябе дрэнна, бачыць як выскоўзваецъ глеба з пад яго ног, звужаецца магчымасьць затуманьваньня працоўных галоў, калі прынятыя меры да ўстрымaньня разьвіцьця сацыяльнае і нацыянальнае сьведамасьці працоўных не памагаюць, тады ён яшчэ з большай заўзятасьцю стасуець формы барацьбы з сваім праціўнікам—чыста правакатарскія; у бязсільлі ён становіцца адкрытым даносчыкам каторы хоча, пры дапамозе адміністратыўных улад, убраць з дарогі непажаданых адзінак, груп, і арганізацыі.

Такое становішча займаюць хадэкі — ксяндзы з сваімі прыслужнікамі Яшчэ ня здолела выйсьці у сьвет „АСВА" як майстры па даносу запрацавалі. У 18 нумары „Бел Крыніцы" яны зьмеямі зашыпелі:

„. . .АСВА"—гэта камуністычна — маскоўскі пашквіль. . " і т. п.

Вон яны! бярэце іх з злосьцю тыкаюць пальцамі кс Станкевічы, Гадлеўскія, паны Ярэмічы з Клімовічамі..

„АСВА" ёсьць паступовы нацыянальна—вызваленчы ворган гумару і сатыры Беларускага Народу на Заходняй Беларусі Яна мае замер паглыбленьня сацыяльнай і нацыянальнай сьведамасьці працоўных мас, шляхам праўдзівага адбіцьця, адбываючыхся падзей і паказаньня іх разгортваньня ў далейшым

„АСВА", не хаваючыся, змагаецца з беларускім буржуазным нацыяналізмам, ізалюючым беларускі народ ад народаў расійскага, польскага і іншых У гэтым паны могуць нас абвінавачваць, але правакатарства, даносы, бруковая лаянка ня была і сёньня ня ёсьць у сілах затрымаць паступовае разьвіцьцё гістарычных падзей.

**Рэдакцыя.**




### Больш дзьвесьце год.

Пасьля 42 днеўнага разгляду справы ўкраінскіх працоўных у Луцку абвінавачаных ў камуністычнай дзеяльнасьці на Заходняй Украіне, вынесены прысуд па якому абвінавачаныя атрымалі больш двух сот год турмы. Усе падсудныя пазбаўлены права рашаючага голасу на 10 год. Дзесяць чалавек пасьля 3-х гадовага прабываньня ў турме апраўданы.

З газэт.

# Як з вайною?

Ну, дык, як з вайною!? Калі будзе вайна?... Хто пачне і праціў каго!? Такая думка ходзіць па сялянскіх хатах, рабочых падвалах і багатых харомах. На трыбуне Мусаліні — правадыр сусьветнага фашызму-ён кідае ў напоўненае порахам паветра завярэньне: Вайны ня будзе"... „Нічога падобнага на 1914 год няма", Усе краіны ўзброены і гэта гарантыя міру".

А на Усходзе Японія: „Я права маю на Кітай", „Азія мая і хто суне нос пазнае моц броні маго кулака", „Мірна" зусім па Мусаліні, поўным голасам пагрозы заяўляюць японскія імпэрыялісты; яны рыхтуюцца, аблізваючы губы і дзівячыся на Совецкі Далёкі Усход.

Нямеччына больш не дамагаецца права на ўзбраеньне, а проста па „мірнаму" ўзбраяецца і то пасьпешнымі тэмпамі. У гэтым годзе яе ваенны бюджэт павялічаны на 352 мільёны марак На самалёта-будаўніцтва ў 1933—1934 годзе выдавалася 78 мільёнаў, а ў 1934—1935 г толькі 210 мільёнаў, больш чым у мінуўшым годзе на 132 мільёны...

Усё гэта так сабе „мірна". І „мірна" Францыя, пасылаючы ноту пратэста да Гітлера, кажа, што сёньня ўжо ня можна разбройвацца... Англія пачынаець дрыжэць за сваю сусьветную славу і за ўплывы ў Кітаі дзе Японія, ўзмацніўшыся не палічыцца з ёю. У гэтых умовах крызыс прадаўжае стаяць на сваім, душачы сваёю лапою ў першую чарту зьбяднелага чалавека працы.

Такія яны справы браточкі, так, што Мусалінаўскім казкам ня верце... Бо ні толькі ў гэтых краінах, а ўсюды —дж...ж. ж дж..ж. ж праўда жужыць і „асьвіны" рой, але жужаць у паветры самалёты і жужаць мацней чым калі.

Вас цікавіць, калі пачнецца вайна, ў які месяц дзень і ў якую гадзіну? Дальбог не скажама, бо-ж гэта вайсковая таямніца ды так зашыфравана, што аб гэтым ня ведаюць нават і самы шыфравальшчыкі. А вот тое што сёньня мы стаімо да яе бліжэй чым учора дык гэта ясны факт.

Вы можаце запытаць; а адкуль чакаць налёту ворага: з Немцаў, Далёкага Усходу ці яшчэ скуль? Шукайце яго там, дзе ён найбліжэй ды толькі не коўзаўцеся па паветры ды сусьветных маштабах, бо вясна і лета могуць прынесьці нечаканасьці з-за „мірных" Мусалінаўскіх хмар, з-за якіх стрычаць дулы армат і чуцен крык прапэльлера.

Бадзёры.

### Упэўнены.

Я спакойны,—мае дзеці не сядзел нікол ня будуць сядзець у турме.

— Чаму ты так упэўнены.

— Бо ў мяне іх няма..

### МУЖ.

— Цётка Агата паваражы, калі ласка куды мая жонка пойдзе пасьля сьмерці: ў рай ці ў пекла?

— А нашто-ж табе гэта знаць, мой ты Міхаська?

— Як-жа, калі яна пойдзе ў рай, дык я лепш у пекла, абы не спатккацца..

# Капітал да масы.

Ох, маса, на што злуеш?
Я аўта маю свой,
Ты вечна галадуеш
І ходзіш пехатой.
Хай грошы льюцца мне —
Галоднай ты будзь рада!
На тым сьвеце для цябе
Есьць і міласьць і награда



Гэты сьвет зусім блазнота,
Вы тут бога пастушкі,
Аб мой скарб непсуйце рота, —
Марша граюць хай кішкі.
Лёс заўсёды нэндзу шле,
Тут табе мая спагада, —
На том сьвеце знай: цябе
Чакае вялікая награда.

Я чакаляду маю зрана,
Яна мне сілы дадае;
Табе сьнядачьне—вада з крана
Бяжыць па кішках ды пяе
Мне сьмятанкі шклянкі дзьве,
Тваё дзіця і „млеку" рада, —
На том сьвеце затое цябе
Чакае вялікая награда.

У мяне памешканьне і футра,
Паліто каракулем блісьціць,—
Ты носіш лахі і ўсё нутро,
Тваё ад холада дрыжыць.
Боты сонцам зьзяюць,—у мяне,
У тваіх ні перада ні зада,
Затое ў небе ўжо цябе
Чакае вялікая награда.

Харомаў чыстых моц я маю,
І адпачынах на пуху,
Ты сядзіш ў сырым падвале,
Як жывёла ў катуху.
Сьмяецца шчасьце толькі мне,
Я не баюсь ні мук, ні „ада",—
На том сьвеце няхай цябе
Чакае вялікая награда.

Калі памрэ хто з тлустых нас,
У нашага парогу капіталу,
Газэты ўзлымуць тут галас,
Па абмярцьвеўшым салу.
Няхай Кастуха цябе зрэжа,
Зтабой пойдзе бяды пляда,
Затое там ў нябесным брэжы
Спаткае вялікая награда.

Як цяпер, ты жыві надалей,—
Выкінь мары пра шчасьце і быт;
Ты дарэмна за іх не хварэй,
Капіталу твой енк ўжо абрыд.
Дні жабрачыя з кіем у руцэ,
Хай бягуць, як бяжыць дарога.
На том сьвеце, павер-жа цябе
Чакае, чакае награда.

Капітал, ого . го, гэта вялікі пан,
Тут сямейка, тлустых, брухатых,
У свой сыты, багаты стан,
Ен не пусьціць галодных у латах.
Дрэнна заўсёды табе,
Наракаеш на жыцьцё, нябога,
Спачувак, але ў небе цябе,
Чакае прыслуга ад бога.



Часам табе ужо здаецца
Што я схаваў пазуры.
К багацьцям маім хто імкнецца,
Вядуць яго зноў за муры.
Бываець страшна мне...
Уціск — мая дарога...
Жыву я тут, ну, а цябе
Чакае ў небе, хай награда?

Паводле „Мухі"

## Грызуцца.

— Як ты думаеш, Янку, за што грызуцца паміж сабою паны санатары?

— Ды яно тут ясна,— за тое як лепш з цябе і з мяне скуру злупіць

## Так бывае.

Сэквэстратар зьвярнуўся да селяніна:

— Чы бэндзе пан плаціл залеглосьці...

— Што вы паночку, ніякіх гасьцей ня было, за што я маю плаціць?

ЗЬБІРАЙЦЕ ФОНД НА „АСВУ".

# Міхасёва „арыхмеціка“.

Парабкі затрымаліся на хвіліну ў стайні; коні пераступаючы з нагі на ногу елі канюшыну; першы вясеньні вецер туляўся па завугольлю, лазіў па ліпах, каштанах, хаваючыся ў чыстых почках, паказаўшых невялічкія лісточкі; сонца падымалася з за лесу, праціраючы заспаныя вочы, кідала слабыя чырвона-залацістыя праменьні кос на прамерзлую зямлю; заглядала ў твар парабкам, вітаючы з добрым днём. Яны не зьвярталі ўвагі. ., закурваючы гутарылі:

— Кажаш на ўсе ваяводзтвы ўвялі катэгорыю пытаўся каранасты, як дуб, з крывымі тоўстымі каравымі пальцамі, жорсткімі вусамі і крыху схаванымі вачамі — пажылы парабак – хурман, у маладога шустрага Міхася, што працуе з імі на правох сталоўшчыка.. Той пацягнуўся, пусьціў хмары дыму, папраівіў шапку...

— Дык вось, кажу—пачаў ён—, што ўчора сам купіў газэту і сам чытаў; яна ў мяне схавана... там так і пішуць: „парабкі будуць атрымоўваць грошы і ардынарыю па катэгорыях“.. сам чытаў.. маніць ня буду. .

— А чаму-ж ты, хлопча, гэтую самую газэціну сюды не прыцягнуў — запытаўся вартаўнік, які падышоў да парабкоў...

— Пачакай дзед, не перабівай .. кажы, Міхась, аб чым там яшчэ пішуць, закончыў каранасты.

— Дык кажу, што там, як ёсьць усё распісана; мы разбіты, можна сказаць, на тры катэгорыі і зазначана, што гэтыя самыя катэгорыі датычацца хурманоў палявых работнікаў, парабкоў пастухоў вартаўнікоў і наогул нашага брата.. Мы, як знаходзімся гэта знача, на Пастаўшчыне, дык нам далі самую апошнюю катэгорыю – трэцюю, па якой можна зарабіць за год толькі 65 зал. і 11 квінталёў збожжа... гэта для паробкаў якія жывуць і хврчуюцца пры сваіх сем'ях, а такім, скажам, як я сталаўшчыкам, дык плоціцца па месяцам прыблізна так: у зімку 10 залатых, а ўлетку, усамую, што называецца гарачую пару—16 зал; во як у нас адчубучываюць і ён, выцягнуўшы шыю, падаўся крыху наперад, хочучы ўзмацаваць выказаннае...

— А першая колькі?

— Раскажы пра ўсе катэгорыі...

— Паскольк-ж гэта ў дзень выходзіць... Кожны стараўся запытаць. . кожнага зачапіла за балючае, самае жыцьцёвае... Падняўшы вочы.. зірнуўшы на ўсіх Міхась, несьпяшаючыся, адказаў:

— Мала смаку і ў тых двух, калі ўзяць, прыкладна па грошах, дык аднэй 90 зал., а ў другой—75; квінталёў, гэтых самых, у абоіх па дванаццаць.

— Аб сталаўшчыках скажы. .

— Я ўжо ка аў аб нашых, а што датычыцца тых катэгорыяў... дык у першай — зімою сталаўшчыку адвальваюць аж 12 зал., а ўлетку цэлых—18; у другой-жа адзінаццаць узімку і 17 улетку... Вот і ўсё, што яшчэ можна сказаць. .

— Але-ж ты Міхаська не сказаў, як будзе падзёнка выцягаць, прыплюшчыўшы вочы пытаўся пастух, у ільніста-белай бародцы, якога блудзіў цёплы в цярок.

— У дзень кажаце. .?

— Так.. удзень, сынку...

— Тут, дзеду, галоўнае арыхмецыку трэба ведаць... ды алавік з папераю мець, а падлічыць гэта нам глупства, мігам — і ён выцягнуў з кішэні агрызак...

Дзядзька Панас, дай кавалак паперы .. Каля



Міхася моцна сьціснуўся круг жывых целаў... галовы іх падаліся наперад. Было ціха.. Усярэдзіне малады паробак, прысеўшы на калена рабіў арыхмецыку, мочачы языком алавік, час ад часу скроб сківаіцу.. Праз некалькі хвілін усе выпраставаліся... Міхась зачытваў крыва вывядзяныя лічбы...

— Значыць—гучэў яго голас,—першая катэгорыя зможа зарабіць за дзень 25 грошаў другая - 21, а мы дык аж васемнаццаць,—зразумелі?!

— А сталаўшчыкі, сталаўшчыкі як...?

— Тут умяне падлічана ўсярэднім так, што на першуюпрыходзіць кругла па 47 у дзень, на другую—45, а нам ізноў толькі 40 грашакоў...

— Што-ж гэта такое будзе, а мае-ж вы людцы... гэта-ж я і паншчыну памятаю... але... але..., на гэтым але ён запнуўся і змог толькі запытацца—як жыць?!

— А больш там нічога ня пішуць? Што... што рабіць там ня пішуць? — ціха, прыдушана гдзе-сь з пад самага сэрца, выціснуў гэтыя словы каранасты.

— Нічога нямашака. Памаўчаўшы Міхась дадаў:

— Самым трэба парушыць мазгамі, як жыць далей... а не чакаць хто што скажа...

— Я даўно гэта кажу — ўмяшаўся высокі, трохі гарбаваты ў кароткім палапленым кажушку, Марцін...

— Кажу, што ня трэба хадзіць з насуненым на вочы казырком... падняць яго трэ ды вышэй, каб угледзіць усю безабразію...

— І час зараз такі падыходны — умяшаўся Юрка—пачынаецца гарачая пара... два разы ў год яна ня бывае, прапусьціш, назад не вярнеш... тут можна якраз і свайго дабіцца...

Паволі разыходзіліся на двары. Кругом усё маўчала толькі спадарожнікі стагодзьдзяў высокія каштаны з ліпамі гутарылі між сабою; вецер вандраваў ад будынка да будынка, заглядаў у вокны хат; назойлівая думка... думка як жыць...? паварочвала з боку на бок, лёгшага спаць, дзеда. Міхась, падкладваючы смалякі, засунуў пальцы ў цёмныя, як ноч валасы, яшчэ раз перачытваў газэту аб аплаце працы дваровых работнікаў. Каранасты парабак хадзіў па хаце, смалячы папяросу за папяросай, пазіраў на жонку, якая прала аканому кудзелю; на дзяцей, што смачна спалі ў запечку і на печы; з пад настольніцы ён бачыў акраец хлеба, сьпечанага з мякінаю. Усё гэта яшчэ больш выклікала непакой,

калупала, падкавырвала даўжэзнымі пазурамі, цяжкага жыцьця, не прызвычаены працаваць мозг. Скакалі думкі з аднае клетачкі ў другую, ад лічбаў да ардынарыі, надыходзячай вясны, замыкаючыся ў адзін круг як жыць, што рабіць,



дзе параду знайсьці...? Каля парога затрымаўся, нібы знайшоўшы адказ на пастаўленыя жыцьцём пытаньні. Накінуў на плечы сьвітку... нічога ня кажучы выйшаў з хаты і накіраваўшыся праз цёмную ноч да Міхася, туды, дзе трашчэлі чырвоным агнём смалякі.

К. К—ха.

## Там дзе вескі з пахілымі хатамі

То ня мора бушуе ў Манджурыі,
І ня гром наляцеў на Кітай, —
То японскі фашызм, сьмертнай бураю,
Кулямётным вагнём завітаў.
Кроў ліецца крыніцамі бурнымі,
Самалёты трасуць небастык
Тут сыстэму з выборнымі урнамі
Замяніў акрываўлены штык.
Задрыжэла паветра гарматамі
Дым узьняўшысь, зьмяшаўся з пяском,
Там, дзе вёскі з пахілымі хатамі,
Генералы зганяюць аском.
Сьмерць сьвінцовымі гаўкае ядрамі,
Ноччу неба, крывавіць пажар.
Ды дарма! Партызанскімі кадрамі
Закіпеў паднявольны абшар.
Барацьба, што з японскімі ордамі,
Ня міне і японскіх паноў'
Загрыміць перамога акордамі
Дзе праліта працоўная кроў.

А. ІВЕРС.

## Завэшваюцца.

— Чуў?!

— Што такое здарылася?

— На перш за ўсё, Луцкевіч завесіў Астроўскага, потым Астроўскі Луцкевіча ды бязьлітасна цягне ў суд .

Э.. э...э братку, крук круку бяльма ня выклюе.. і тут цуд..

— Але ёсьць нелады...

— Нічога як адзін так і другі, ды яшчэ хадэкаў сюды—беларускія паны б'юцца за нашу „гарбіну".

Пасьля вясеньніх канікулаў, пан Астроускі прыступіў да чысткі гімназіі ад неплацежаздольных элемэнтаў. Так з восьмае клясы з 24 вучняў было выкінута—21 асоба.




Хіба-ж гэта, браточкі, уціск,
Альбо скажаце зьдзек над культурай,
Радаславу прыемны піск
Дзетвары абяднелай панурай

За каўнер ён бярэ і дарогу
Без уціску ў чатыры бакі;
Каму ў мягкае месца ногу...
Не заплаціш ляці ў жабракі...

Тут ня зьдзек адно зразумела
У БССР зусім іншае дзела, —
Аб прымусе трэба крычаць,
На Астроўскіх там ставяць пячаць.

А што дзеці жывуць безклапотна,
Дзе мільёны, як пшчолы мёд,
Веды поўняць у галоўкі „плотна"
Гудзіць сьмехам іх веснаход.

Дык дзіва, якое для пана,
Антона, Адама і Яна,
Ім грунт гаманіць аб уціску
У чырвоным савецкім Менску.

Штубак.

## За варштатам.

Гэй, шумі хутчэй падпілак!
Мацней стукай малаток!
Умяне сягоньня — сіла
У бадзёрасьці паток.

Я не знаю соннай зморы
І не маю чорных дум,
Бо ў грудзёх бушуе мора, —
Дык на бок нуда і сум.

Шасьцярня за шасьцярнёю
Барацьбы сьпяваюць гымн —
Мае думкі, мае мроі
Над варштатам... не сваім.

Я—працоўны, дык працоўным
Кую долю, кую лёс —
Мaлады і жыцьця поўны
У гулкім гомане калёс.

А. ІВЕРС.

# Слухайце, слухайце!!!

## У ПОЛЬШЧЫ:

Уведзены новыя штрафы за зьбіраньне кары, травы, лісьцяў. шышак — да 100 злотых. За зьбіраньне грыбоў, ягад зельля — да 20 зл. За пасьбу жывёлы ў лесе на полі (чужым) — да месяцу арэшту, альбо 1000 зл. штрафу. За прагон жывёлы праз чужое не загаранае і не засеянае поле — да 100 зл. па загораным і засеяным — да 500 зл. За зрываньне каласоў, марквы, буракоў—штраф 100 злотых. Апрача штрафу арэштаў і турмы засуджаны мусіць у двайне вярнуць тое, што ўзяў. Каб гэта спагнаць, уласьніку леса ці поля, даны правы па закону затрымоўваць жывёлу пакуль ня будзе выкуплена.

У Лапах, каля Беластоку, згарэлі вагонныя майстэрні, разам з імі 30 пасажырскіх вагонаў. Страты дасягаюць двух мільёнаў злотых.

За тры гады надзвычайныя суды разглядзелі 225 спраў з 457 абвінавачанымі. З гэтае лічбы 231 засуджаны на кару сьмерці, з іх памілавана панам Прэзыдэнтам толькі 69 асоб, на вечную катаргу засудзілі 154 чалавек, 69 асоб справы накіраваны ў звычайны суд. З усяе гэтае лічбы толькі тры апрадаўны.

У апошнія часы безработных у Польшчы налічваецца 381.440 асоб.

У Варшаву прыехаў французкі міністар Барту. 23 красавіка ён быў прыняты Прэзыдэнтам Масьціцкім, а 24 з ім меў двухгадзінную гутарку маршал Пілсудскі. Як перадаюць газэты.. дык па ўсіх пытаньнях.. знайшлі поўную згоду.

Над Макатоўскім аэродромам (Варшава) стукнуліся два самалёты адзін аб адзін. Абодва лётчыкі забіты.

## НА ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.

Выбары ў Віленскі самаўрад аканчальна вызначаны на 10 чэрвеня гэтага году.

У Навагрэдчыне 3-х мужчын моцна пабілі лясніка з Гарадэчна Ал. Война. Хто пабіў ня ведама, а за што дык яны напэўна добра ведаюць.

У Слоніме зарэгістраваных безработных налічваецца 220 особ, а не зарэгістрованы ўсе астатнія..

У Навагрэдзкім павеце „выбары“ у гарадзкія рады адбудуцца ў траўні. Злыя языкі кажуць што яны фактычна ўжо адбыліся, трэба толькі ахворміць „большасьцю“.

## ЗЗА МЯЖЫ:

Совецкі ўрад за гераічную працу лётчыкаў па ўратаваньню жыцьця „Чэлюскінцаў“ пастанавіў: прысвоіць званьне „Герояў Совецкага Саюзу“ Ляпідэўскаму, Леванеўскаму, Молакову, Каманіну, Сьлепнёву, Водоп'янову і Дароніну. Усе яны, з усім лётным складам. награджаны ордзенам Леніна. Усім пастаноўлена выдаць грашовую нагараду ў разьмеры гадавога заробку кожнага.

Нанкінскі ўрад закупіў у Амерыканскай фірме „Унайтэд НРС25 разьведачных самалётаў. Перад гэтым было закуплена—30.

Ухуткім часе Японцы у Манджуры прыступаюць да пабудовы 7 новых чыгунак.

Манджурскія партызаны напалі на японскі бронецягнік. Часьць вагонаў падорвана дынамітам. У другім месцы войска мела сутычку з партызанскім атрадам у 700 чалавек

На 15 красавіка ў Советах было засеяна на 6.756 тыс га больш чым за гэты пярыяд у мінулым годзе. Совецкая Украіна ўжо закончыла сеў раньніх зернавых культур.

23 красавіка ў Маскву прыляцела Турэцкая экскадрылія.

З Чэхаславакіі, праз Варшаву, у Совецкі Саюз праехалі дзьве групы (300 асоб) аўстрыйскіх паўстанцаў - шуцбундаўцаў.

Пад Сараевам (Аўстрыя) у аднэй з шахт узьнік выбух падчас якога там знаходзілася нескалькі сот чалавек. К 5 гадзінам дня дасталі 105 трупаў; лёс іншых у стане пагрозы.

У СССР выпушчаны новы заём „другой пяцігодкі“ на тры мільярды з палавінай рублёў

У Гішпаніі 23 красавіка адбыліся ў шэрагу пунктах крывавыя сутычкі рабочых дэманстрацыяў з паліцыяй. У Севіле і Марыкане ёсьць забітыя. У Мадрыдзе 20 асоб паранена. Газэты перадаюць, што забурэньні прыймаюць усё большыя разьмеры

У Бамбеі Індзія) забастоўка ткачоў пашыраецца, лік бастуючых дасягнуў — 30.000 асоб.

Пяць дзён таму ў Маскве прыступілі да зносу Сухаравай башні. якая зьяўлялася не малою перашкодаю ў вулічным руху



## Не зразумелі.

У вагон увайшоў паліцэйскі кантроль:

— Доводы панове, доводы... прошэн доводы..

Група сялян-беларусаў сталі разувацца і скідаць нагавіцы...

— Цо вы ту робіце...

— А мы, паночку, толькі нагавіцы скідаем, бо калі там плытка дык ня варта зусім разбірацца.

Пытам у панув пашпорты!

— Які злосны до воды жадае і пашпартоў пытае...

## Дасьціпны.

Маці, прышоўшы з каморкі ў хату напусьцілася на хлопчыка.

— Ты што-ж гэта Міхаська, у каморцы было тры яблыка, чаму адно засталося?

— Там матулечка цёмна і я яго не заўважыў...

## Пазавідаваў.

— Ах ты мой сусед. каб я мог быць сабакай..

— Здурэў, нашто-ж гэта?!

— Тады за мяне бралі-б падаткі, а не зь мяне..

Санацыя з хадэкамі жывець „турботамі" аб галадаючым сялянстве і работніках. Яны заклікаюць да самападтрыманьня 3 захопам паны пішуць аб дзяржаунай дапамозе.



Вы галодныя, мы знаем
Вам надзвычай спачуваем,
Там дадуць,—туды шагайце
Складку й вы галодны. дайце;
Ахвяруйце, падвалеце
Камітэту памажэце
Схудзець могуць „ягомосьці"
Няхай з вас вылазяць косьці,
Камітэту ж дапамогі,
Каб не выцягнуў ён ногі,
Падкідайце хто што зможа:
Грош, яйцо ці гарнец збожжа.
Атрымаўшы, штось паўпуда
Селянін бядак нікуда
Ішоў к разбуранай хаціне
Дзе ні дзецям, ні скаціне,
Ні самому ў рот узяць
Вось бягуць яны крычаць:
— Татка... хлеба хлеба дай!

Абяздолены.

## ВЫРВАЛАСЯ.

Капіталіст да свайго слугі:

— Ты зладзейскі слуга!

— Цікава, цяпер я даведаўся толькі ў каго служу, — адказаў слуга.

* * *

## ДРЭННЫ ЗООЛЕГ.

— Пане кэльнэр, што гэта за рабак у маёй зупе?

— Выбачайце, але я запраўды ня ведаю, ня вучыўся зоолёгіі.

* * *

## АДРЭЗАУ.

Судзьдзя (да падсуднага чорна аброслага валасамі): — Тваё сумленьне хіба так чорнае, як твая барада.

Падсудны: — Калі маем судзіць па барадзе, то пан судзьдзя ня мае зусім сумленьня, бо ня мае барады.

# БРЫДА.

Кучка сялян сядзела ў хаце, пускаючы хмары дыму, аж пад столь..

Аляксей, што ўцёк сёлета з Расеі... Сохарам чамусьці яго празвалі на вёсцы.. абапершыся локцямі на стол пачаў апавядаць...—Там... у Советах няма жыцьця нашаму брату... у калгасы заганяюць, хлеб адбіраюць... Многа набудавалі, але нічога няма.

— А як там з безрабоцьцем? Хапаюцца гэтага пытаньня тыя, што тры гады шукаюць с сьвечкаю працы...

— Што з таго, што яны ня маюць безпрацоўных...

— Ці даюць хлеб тым, што працуюць? — Даюць, але мала... па 800 грамаў і, самае большае— гэта кілё...

Каля печы на калодцы сядзеў сівенькі дзядок, ён падтрымліваў левай рукою старую, самадзельную люльку і як бы забаўляючыся, ні аб чым ня думаючы пускаў кружочкі дыму праз дзьверцы люлькі з пад навіслых кудлатых брывей. Вочы дзівіліся ўзямлю..

— Эт — пачаў ён, не падымаючы галавы. — Мой сабака ніколі сабе мейсца не знаходзіць, ляжа за адным кутом, падзьме вецер-усхапляецца і бяжыць за другі.

— Што ты гэтым, дзед, хочаш сказаць?

Хіба-ж я што хачу сказаць, я толькі прыклад такі даю; людзі гэтак сама ёсьць, якія мейсца сабе не знаходзяць...

— Ты мне дзяцька, гэтага не кажы.. Я ведаю смак бальшавікоў Вас-бы туды хоць на пару тыдняў тады-бы заспявалі ня тое..

— О то-ж Аляксейку, каб твае слоўкі ды панам і богу ў вуха, я вельмі хацеў бы быць там... і мне напэўна мясьцінка ў іх калгасе знайшлася-б.

Ен выняў люльку, павярнуў галаву і плюнуў у качарэжнік.

Адзін за адным выходзілі з хаты ў дыме, гомане, марозе, які рваўся пад ногі каб пралезьці ў хату, як тое галоднае парасё. Былі чутны словы:

— Альбо гэта чалавек... на чыім возе сядзіць таму і брэша...

— Няхай пажыве з намі месяц, другі тады засьпявае ня гэта

Пад нагамі абутымі ў пасталы, паскрыпваў сьнег. Па цьмяна асьвечаных шыбах, мароз разсадзіў свае кветкі. Сяляне разыходзіліся па хатах. хаваючыся пад саламянныя стрэхі з думкаю:

— Чужы гэта чалавек, не, нам ня трэ хадзіць да яго...

Сівы дзед, садзіўшыся за стоў. каб зьесьці вячэру з салоннікаў і салёнае вады пры кавалку чорнага хлеба, адказваючы на пытаньні хатніх, махнуў рукою...

— Брыда... была, брыда і ёсьць; добрыя людзі адтуль не варочаюцца, а знаходзяць за тым сталом мейсца і не падымаючы вачэй, як-бы на некага ўзлаваўшыся, узяўся за вячэру.

К. Камарыха.



# Мы не адны!

Мы не адны ў віхурах нашых дзён,
Мы не адны, каб жыцьцё ўзяці з бою,
І не адны кайданаў чуем звон,
Ідзем наперад поступ'ю стальною.

У шэрэгах з намі за працы ідэал
Шагаюць тысячы палякаў вуглякопаў
І жыцьцё наша, жыцьця іх канал,
Сьлязьмі наліты, потам.

Мы не адны здабудзем волі перамогу
Запалім каганцы ў тумане цёмных хмар
І не адны прайдзём пакутную дарогу
Дзе станецца жыцьцём — стагодзьдзі нашых мар.

Мы не адны між грукату маланак —
У шэрэгах знамі ўкраінец, яўрэй,
Сьмяецца сонца нам, працоўны ранак.
І вабіць ён пакрыўджаных людзей.

Нас вораг сіліцца зрабіць аднымі,
Ад злосьці пеняцца Луцкевічы, ксяндзы,
Працоўных рацьшэрэгамі стальнымі
Зьмятае здраднікаў прагніўшыя рады.

БЫЛІНА.

---

У Беластоку, адміністратыунымі уладамі завешана апошняя акружная управа Т.Б.Ш.




Тут зразумела і без слоў
Нашто тлумачыць і каму
Галоў... Управа з трох галоў
Вяла ўвесь час к таму.
Санатары, хадэкі „лгалі"
Што была сілы памагалі
Замок павесіць у дзьвярэй,—
Сваіх пятрушак насадзіць
Такім шляхам каб зрабіць
Із Т.Б.Ш. прастую зброю
Свайго нац дэмаўскага строю.
Дзесяткі тысяч тэбэшоўцаў
Пазналісь сёньня на панох,—
На Астроўскіх балахоўцаў
Гэтых чорных груганох.

Тэбэшонак.

# Поп, Мікіта і Мікола.

У в. Какошыцы. Езерніцкай гміны адбываліся асаблівыя „хрысьціны" і „прычасьце" — не забыць сялянам „шчасьця", як у лютаўскі марозны дзень сагналі ў царкву люд, як цень: хлапцоў, дзяўчат, старых і маладых; сагналі ды сказалі: Малецеся грахі складайце, папу грошы свае аддайце. Пасьля пасьведчаньне глядзелі ці прычасьце людзі елі...

Мікола быў мужык упарты, — пад прымусам лёг у рызу; баця стаў яго пытаці:
— Мікіта, ці ты грэшны?
— Не, бацюшка я ня грэшны?
— Як не?!
— Кажу не і квіта,—адрэзаў Мікіта.
— Хіба-ж ты сьвяты?
— Ня грэшны і не сьвяты, а вам патрэбны мой залаты.
— Ой.. ёй... ёй, ты зусім, як камуністы і язык ў цябе ня чысты.
— Я кажу — ня грэшны не сьвяты і не — фашысты. Сілай тут мяне прыгналі, каб вы баця спавядалі, ды пасьведчаньне мне далі, што за сьвечкі грошы ўзялі
Чарга дайшла да Мікалая.
Ен падышоў і стаў, як хвойка. Поп рызу, раз яму ускінуў, Мікола ўзяў яе адкінуў.
— Чакайце баця — прыць спыніце.
— Што з вамі божыя вы дзеці?
— Нічога так сабе, пагутарыць хачу з табою...
Для гутаркі, мой сын, зайдзі у дом сумленны...
— Не бацюшка пастой — я разгавор маю сьвяшчэнны і выказацца жадаю тут прад грамадою...

Мікола гаварыў Поп бегаў, крычаў: „Годзі. Годзі, бо паліцыю паклічу, бальшавіцкі" пузе-сычу". А, ў народзе гоман, рогат.. Тут Мікола павярнуўся, да натоўпа усьмяхнуўся, ды туды, дзе дзьверы — выхад, дзе стаяла свая хата, за ім хлопцы і дзяўчаты. Другіх пасьведчаньне ўстрымала, але мала. Так у Какошыцах бывала, куды „АСВА" ўжо залятала сваім джалам запісала, каб аб гэтым люднасьць знала.

Ацот.

# ПОШТА.

Д (См—нь) Ваша пісьмо атрымалі,—дзякуем будзем патроху выкарыстоўваць. Старайцеся пісаць аб адным здарэньні і падрабней.

Квялюк. — Вы шмат пішаце і вельмі не выразна. Чакаем вашу працу кароценькую, але выразна напісаную. Вы гэта можаце — толькі пастарайцеся.

С. Шыр-Шлях. Дзякуем, атрымалі. Пішэце і лічыцеся з цэнзураю. Абірайце тэмы з грамадскага жыцьця.

А. Іверс. Вашы вершы зьмяшчаем, присылайце больш.

Васілёк, Сошка, Рэдзька — „Асва" чакае ад вас грамадзкага гумару пасьпяшыце з ім да 5 нумару, які выйдзе да 15 мая.

К. К—ха і З Б—на, — зьмяшчаем, пішэце болей.

---

Рэдактар - выдавец: П. РАДЗЮК. Druk. Sp. Wytw. Handlowa, Trocka 7.

